# Так жыве вышэйшая „арыстакрацыя“ у Савецкім Саюзе

**Бязьдзелкі і канапа — усё «культурна». Лянівы чар бязьдзелак у кватэрным камісарыяце. Буржуй згінуў — яго дух жыве далей. Галава Сталіна з дыкты, як помнік культуры. Атрыбут савецкае бонзакратыі. Ліліпуты-сланы з штучнага мрамару.**

**Ад ваеннага карэспандэнта Вільфрэда ф. Овэн.**

Я хочацца верыць, што 180 мільёнаў чалавек Савецкага Саюзу жывуць выключна ў зямлянках і разваленых будах. Зрэштай, нідзе сацыяльныя і жыльлёвыя ўмовы не зьяўляюцца ў такой меры страшэнныя, як у «бацькаўшчыне працоўных», савецкім раі. Мы, нямецкія жаўнеры, гэта бачылі на кожным кроку, ваенныя карэспандэнты гэта ўтрвалілі ў патрасаючых вобразах - дакумантах. Маса савецкіх людзей жыве, асабліва на вёсцы, ува ўмовах, якія можна азначыць адным словам: нягодныя чалавека. Але і тут ёсьць адваротная старана мэдалі. Гэта варта разгледзець.

**П.К. Надзвычайнае паведамленьне.**

У ніводным краі не гаворыцца так многа аб «культуры», як у Савецкім Саюзе. Усё «культурна», як кажа гучны прыметнік. Масавыя сходы з іх гучнымі плякатамі і таннымі фразамі — «культурныя». Рыкаючы мэгафон на сьцяне, новая савецкая канстытуцыя й савецкае шампанскае — усё «культурнае» і прыводзіцца ў крыклівай агітацыі, як доказ таго, што Савецкі Саюз зьяўляецца культурным гаспадарствам. І кватэры «вышэйшых дзесяці тысячаў», камісараў, жыдоў, рабочых-стаханаўцаў і афіцэраў —«культурныя». Прыгледзімся-ж раз да гэтага шыльду бальшавіцкае жыльлёвае культуры.

**Дзіцятка Езус і савецкая зьвязда.**

Цэнтральным пунктам кватэры ёсьць канапа. Яна акрэсьленых разьмераў і дастаўляецца ў двух або трох відах вырабу. Яна знаходзіцца ня толькі ў некаторых добра ўмэбляваных кватэрах, але і ў урадовых памяшчэньнях і бюрах савецкіх уладароў. Канапа сталася атрыбутам савецкае арыстакрацыі. Над кляёнкай або скуранай павалокай узвышаецца навакольны карніз, у сярэдзіне люстра, над ім абводка, направа і налева — шафкі і шкляныя дзьверы. Карніз і шафкі служаць падстаўкамі шматлікіх абрыднасьцяў. У сярэдзіне можна бачыць вазу з гіпсу або тканіну, прадстаўляючыя пусты пень, каля якога разьлёгся пастух з двумя козамі або напоўапранутая дзяўчына. У вазе стырчыць букет крайне пёстрых, запыленых кветак з паперы. Справа й зьлева ад іх: непрапарцыянальныя мопсы з дыкты, некалькі ліліпутаў-сланоў з штучнага мрамару, лялька з шматаў у матроскай вопратцы, ляжачы сабака з ямкай на сьпіне ,прызначанай, здаецца, да скіданьня попелу з папіросаў, дзіцятка Езус з ваты, мяшок якога ўпрыгожвае вялікая савецкая зьвязда, маленькі коцік, які ў зграбна паднятай лапцы з нявідочнай падставы трымае парасон.

**Сьцюдзёная, сумная роскаш...**

Увесь запылены мяшчанскі чар, які ўва ўсёй рэшце Эўропы разьвеяў час і зрабіў нягустоўным усюды, дзе жывуць цывілізаваныя людзі, тут, у Савецкім Саюзе, уваскрос ізноў пад маскай «культуры». Бальшавіцкая рэвалюцыя вынішчыла буржуя. Яго вонкавыя адзнакі перажылі ўсё-ж, як сымбалі фальшыва зразумелай культуры. Буржуяў павесілі на шыбеніцы. Але таму, што бальшавікі на мейсца іх «культуры» не маглі насадзіць нічога іншага, яны пераняЇі гэтую культуру, як сваю ўласную. Як парабак, які забівае свайго пана і апранае шыкарны касьцюм забітага. Кляса буржуазіі, у нас здаўна пераможаная, жыве спадчыну пераняла новая арыстакрацыя. Бяздушная псэўдакультура передваеннай буржуазіі, у нас здаўна пераможаная, жыве ў Савецкім Саюзе далей, як відавочная прымета духовай і культурнае ўбогасьці марксізму.

І так канапа з яе страшнымі дадаткамі зьяўляецца тыповым выражэньнем савецкае «жыльлёвае культуры». Яна ўсё-ж нявыгодная. На сьпінку яе нельга абаперціся бяз болю ў крыжы і небясьпекі, каб уся абстаноўка яе ня ўпала на галаву. Сьпінка зусім няпрыгодна, каб абаперціся, таксама як сядзеньне, каб сесьці. Даволі часта я знаходзіў на сьпінцы і сядзеньні прымацаваныя макаткі. Хатняя гаспадыня, на ўвагу аб неўласьцівасьці такое аздобы, заяўляла, што якраз мэтай макаткі ёсьць паўстрымаць гасьця ад карыстаньня з каштоўнае канапы. Гэта нішто іншае, як сьцюдзёная, сумная роскаш...

**Кульмінацыйны пункт — раяль!**

У ваднаго ўцёкшага партыйнага камуніста, рабочага-стаханаўца ў Данецкім раёне, я знайшоў у кватэры раяль, таксама ўпрыгожаны макаткамі і бязьдзелкамі. Макаткі зрабілі мяне недаверчывым (глядзі канапу), і я спытаўся гаспадыні, ці яна іграе. Так, яна іграе на гітары. На раялі не? Не. Дык хіба муж іграў? Таксама не. А дзеці? І яны не. Дык нашто тады раяль яны-б мелі, хацеў я ведаць. Гаспадыня пачціва абурылася. І яна зрабіла мне даклад у стылі партыйнае прамовы, нашпікованы многімі фразамі. Калі раней маглі мець раялі толькі «буржуі», то гэта можа цяпер мець рабочы ў Савецкім Саюзе. Гэта мае быць поступам, гэта мае быць «культурным».

Да канапаў і раялі даходзіць падобным чынам аднатыповы буфэт, таннае работы з люстрам і машыннай разьбой. Ад Львова да Сталіно, ува ўсіх гэтых памешканьнях бонзаў, мы знаходзілі тыя-ж тыпы мэбляў. Такія-ж самыя крэслы і кіёскі з кветкамі з абавязковым гумовым дрэвам, якое дзякуючы рэгулярнаму свайму паяўленьню падобна-ж шаблённа дзее, з тымжа партрэтам Сталіна і жанравымі абразамі, прадстаўляючымі ў нячувана прымітыўнай форме лебедзяў на пустыннай сажалцы, закаханую пару на лузе або гордага рыцара. Гэта забойча! Мурашкі ходзяць па сьпіне пры наведваньні гэтых «добрых пакояў».

З іх вынікае з усёй яскравасьцю, як бедныя й годныя літасьці нават тыя, каго падняў бальшавізм на падставе іх партыйнае кніжкі з масы галечы.

Калі нэндзныя кватэры агалочаных сялян і паняволеных работніцкіх масаў прадстаўляюць жахлівы абраз усёзьнішчаючага жыдоўскага марксізму, то кватэры «вышэйшых дзесяцітысячнікаў» у Савецкім Саюзе не памяншаюць яго. Тут выступае перад вачыма мізэрнасьць і бяздушнасьць сыстэмы, якая агалачвае людзей з іх індывідуальнасьці і волі, іх веры, каб зрабіць іх паслушнымі прыладамі жыдоўскае сусьветнае рэвалюцыі.

## Індакітайцы як адміністрацыйныя урадоўцы ў Індакітаі

**(Ад нашага прадстаўніка)**

Гэнэрал-губэрнатар Дэкуз выдаў распараджэньне, на падставе якога ўпяршыню пэўная колькасьць выучаных індакітайцаў будзе дапушчана ў якасьці ўрадоўцаў да адміністрацыі ў Індакітаі. Гэтае мерапрыемства мае вялікае палітычнае значэньне, тымбольш, што намечаны й далейшыя падобныя мерапрыемствы. Індакітайцам, якія вучыліся ў вышэйшых школах і пры гэтым вызначыліся асаблівай здольнасьцю, даецца гэтым самым магчымасьць застасаваць сваю веду на службе французска-індакітайскае супольнае працы.



Камандзір дывізіі (у сярэдзіне) адведвае галоўную баявую лінію.
Здымка: Ваенны справаздаўца Гэбаўэр.

## Паміж Індыяй і Кітаем няма ніякага палучэньня

**Брытанская ілжа запярэчана ўласнымі паказаньнямі. Асаблівыя ўцёкі ангельскіх жанчын.**

**(Ад нашага прадстаўніка)**

Пасьля таго, як стаўся немагчымым усялякі давоз па Бурманскаму шляху, брытанская прапаганда прабуе пацяшаць адрэзаны ўрад Чунгкінгу фантастычнымі нябыліцамі аб узнаўленьні новай дарогі да Індыі. Але цяпер франтовы рэпартэж ізноў сьцьвярджае, што ніякай сувязі між Паўночнай Бурмай і Кітаем з аднаго боку і Індыяй з другога боку фактычна няма і ня можа быць. У апісаньні асаблівых уцёкаў брытанскіх жанчын з Мандаляі, зьмешчанай у газэце «Дэйлі Экспрэсс», прыбыўшы ў Калькуту франтовы рэпартэр Галлягэр расказвае аб папросту немагчымым стане дарог, які цалком выключае рэгулярнае й скуткоўнае заспасабленьне Кітаю брытанскім і амэрыканскім матарыялам.

Жанчыны ў ліку 118, якіх прымусова эвакуавалі ў Мандаляі брытанскія ўлады, былі змушаны зрабіць звыш 1000 міляў па жалезнай дарозе, у грузавіках, маторных лодках, на хрыбтах сланоў і пехатой, пакі, урэшце, дабраліся да Калькуты. Таму што яны мусілі вялікшыя адлегласьці прайсьці пехатой па бездарожным абшарам, нельга было й думаць аб тым, каб забраць з сабой нейкія рэчы. Сваіх дзяцей мусілі яны самі нясьці ў кашох, або іх змушаны былі нясьці кулі. Брытанскі рэпартэр не сумляваецца, што гэтае падарожжа падобна было да экспэдыцыі праз абшар першабытных лясоў і лічыць зусім немагчымым гэтую дарогу ахоўваць якім-небудзь войскам.

## Ад лейтэнанта да салдата 2 клясы

**Прыгоды лёсу аднаго эльзаскага студэнта**

У часе выбуху вайны 1914—18 г. г. адзін эльзаскі студэнт замэльдаваўся дабравольцам у войска. Ён быў прыдзелены да аддзелу балённае абароннае артылерыі, зброя якой складалася з расейскае 12 цм. лавэтных гаубіц з бэльгійскімі дуламі, праверчанымі на 7,4 цм. Ён быў, гакім чынам, прыдзелены да аднае з першых нямецкіх проціля тунскіх батарэяў і знаходзіўся пры ёй на ўсіх фронтах мінулай вайны. Ён быў, урэшце, вызначаны лейтэнантам і пасьля заканчэньня вайны пакінуў армію ў чыне камандзіра батарэі. У часе выбуху гэтае вайны, мусіў ён, як эльзасец, апрануць шэра-галубы мундзір Пуалю. Хоць яму быў ахвяраваны французамі патэнт афіцэра рэзэрвы, але ён гэта адкінуў і мусіў увайсьці ў рады арміі як салдат другое клясы. Толькі калі эльзасцы сталіся ізноў нямецкімі, прабіла і для яго гадзіна вызваленьня. Цяпер ён вызначаны Палітычным Кіраўніком НСДАП у Эльзасе.

## 10.000 штук вопратак для нарвэжскага легіёну

**( Ад нашага прадстаўніка)**

Ослё, 26 сакавіка.

Як павядомлена на прэсавай канфэрэнцыі ў цэнтралі збору жаночае арганізацыі Нацыянальнага Аб'еднаньня, кравецкімі майстэрнямі напраўлена разам 10.000 штук вопратак і выслана нарвэжскаму Легіёну, а таксама палку Нордлянд. Паміж вопраткай знаходзіцца 500 камізэлек і 3.000 пар панчох.

## Ніякіх канадыйскіх войск для Аўстраліі

Перад канадыйскім парлямантам міністарпрэзыдэнт Макэнзіэ Кінг падаў да ведама, што канадыйскія войскі ня будуць высланы ў Аўстралію. Заяўленьне было зажадана перадусім з боку францускіх прамаўляўшых канадыйцаў. Канадыйскі ўрад, з увагі на маючы адбыцца 27 красавіка плебісцыт не адважыўся якім-небудзь чынам растраіваць канадыйскую грамадзкасьць.

Пры гэтым плебісцыце станіць пад дыскусіяй пытаньне, ці канадыйскі урад у будучыні зможа мець права высылаць за мора сабраныя войскі ці не. Урад, які цяпер мае замер увесьці абавязак ваеннае службы для ўсіх мужчын да 30 гадоў, абвесціў пакліканьне двух рэзэрвных дывізіяў.

## Абвесткі



*Druck. Deutsche Druckerei, Bialystok.*